# Ніва

ISSN 0546—1960
ІНДЭКС 36671

БЕЛАРУСКІ ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНЫ ТЫДНЁВІК

№ 22 (1568) ГОД XXXI БЕЛАСТОК 1 ЧЭРВЕНЯ 1986 г. ЦАНА 10 зл.

ДНІ БЕЛАРУСІ Ў ПОЛЬШЧЫ

## МУЗЫКА СТАЛА ПАЎСЮДНАЙ

Разам з інструментальна-вакальным калектывам „Чараўніцы“ на Дні Беларусі ў Польшчы прыязджаў дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі Уладзімір Пятровіч Ратабыльскі. Пасля канцэрта мне ўдалося папрасіць яго на некалькі мінут размовы. І ён, і асабліва я, былі пад уражаннем цудоўнага канцэрта. Пакуль мы разглядаліся за спакайнейшым месцам, каб пагаварыць, я не стрымалася, каб не выказаць свайго захаплення.



Уладзімір Пятровіч Ратабыльскі — дырэктар Беларускай дзяржаўнай філармоніі.

Фота Я. Чэрнякевіч.

— Пры нашай філармоніі працуе некалькі такіх калектываў, як „Чараўніцы“. Вы, напэўна, ведаеце „Песняроў“, „Верасы“, калектыў Віктара Вуячыча з ансамблем „Тоніка“. Былі таксама нашымі „Харошкі“, але не так даўно яны перайшлі пад ведамства Беларускай дзяржаўнай эстрады, — расказвае Уладзімір Пятровіч. — Наогул пры філармоніі працуе 18 эстрадных калектываў з народным беларускім рэпертуарам. Нядаўна створаны новы народны ансамбль „Свята“. Калектыў гэты рыхтуе народныя вечарынкі з розных раёнаў Беларусі. Вечарынка ставіцца па фальклорных матэрыялах канкрэтнай мясцовасці і адпаведна таксама з гэтай мясцовасці апрацоўваюцца народныя касцюмы. Цяпер калектыў інтэнсіўна рыхтуецца да загранічнага турнэ. Калектыў „Свята“ ставіць перад сабой задачу — захоўваць і распаўсюджваць беларускі фальклор.

— Як відаць, Беларуская дзяржаўная філармонія займаецца вельмі шырока папулярызацыяй не толькі класічнай музыкі, але і народнай?

— Класічную музыку мы папулярызуем таксама. Але для гэтага ёсць іншыя калектывы. Наогул у Беларускай дзяржаўнай філармоніі працуе каля 800 чалавек. Мы даем у год больш 14 тысяч канцэртаў. Праз паўтара года Белдзяржфілармонія будзе святкаваць 50-годдзе свайго існавання. Галоўная наша задача — як найшырэй прапагандаваць рускую і беларускую класічную і беларускую народную музыку.

Вось 16 красавіка закончыўся фестываль „Мінская вясна“. — расказвае далей дырэктар Ратабыльскі. — Гэта традыцыйна тыдзень прэм'ер. Восенню — Усесаюзны фестываль „Беларуская музычная восень“. Тады ў Беларусь прыязджае больш сотні розных калектываў, і канцэрты тады адбываюцца паўсюдна, нават у малых мясцовасцях і калгасных клубах.

— А вашы найбольшыя музычныя калектывы?

— Дзяржаўны акадэмічны сімфанічны аркестр БССР (100 чалавек), Дзяржаўны народны аркестр імя І. І. Жыновіча, мінскі камерны аркестр, мінскі струнны квартэт, ансамбль старадаўняй музыкі „Кантабеле“ (выконвае творы са знойдзенага ў архівах ў Полацку так званага сярод музыкаведаў „Полацкага сшытка“) і шмат іншых калектываў. Апрача гэтых вялікіх груп, пры філармоніі працуюць камерныя групы, якія ездзяць па краіне з канцэртамі-лекцыямі (5,5 тысяч канцэртаў у год).

— Надта ж багатую і разнастайную дзейнасць вядзе Беларуская дзяржаўная філармонія...

— Так, яшчэ гадоў 20 назад мы самі не ведалі, што гэта можна рабіць так шырока. А ў мінулым годзе, калі паехалі ў Маскву на свой беларускі канцэрт, выступалі 14 разоў у зале спартыўнага алімпійскага комплексу. Зала была разлічана на 15 тысяч чалавек, і ўсе месцы на ўсіх канцэртах былі занятыя. Усе мы тады пераканаліся, як падабаецца людзям наша беларуская музыка.

Рэгулярна штогод адбываюцца абласныя фестывалі пад назвай „Майстры мастацтва — працоўным“. Штогод адбываюцца ў нас Дні культуры адной з савецкіх рэспублік — сёлета Дні Эстоніі. На кастрычнік плануецца так званы музычны дэсант у Славенію (Югаславія). Гэта будзе ўжо рэвізіт на выступленні славенцаў у Беларусі.

Такая шырокая, разнастайная і масавая работа дае глыбокае задавальненне і артыстам, і слухачам. Музыка на Беларусі ўжо даўно стала адной з галоўных духоўных патрэб і моладзі, і дарослых. Тут музыку любяць, паважаюць і разумеюць.

Яніна Чэрнякевіч



У рэпертуары „Верасоў“ ёсць таксама нумары ў стылі рэтра.

Фота Я. Коктыша.

ДА X З'ЕЗДА ПАРП

## ТРЫМАЦЬ УЛАДУ У СВАІХ РУКАХ

У „Тэзісах“ на X з'езд партыі, які адбудзецца ў чэрвені, на самым пачатку сказана:

„Умацаванне рабочага і сялянскага ядра ўлады, пашыраючаяся грамадская падтрымка пастаноў і галоўных напрамкаў намаганняў сталі крыніцай павароту здольнасці партыі да выконвання ў грамадскасці структурнай, кіруючай ролі. Узрос аўтарытэт Сейма, які сапраўды выконвае зараз сваю канстытуцыйную функцыю. Рады нарадовыя лепш спраўляюцца з роллю гаспадара мясцовай тэрыторыі, абапіраючыся на новыя, павышаючыя іх ранг, праўныя рэгуліроўкі. Разгарнулася і замацавалася кааліцыйная сістэма ажыццяўлення ўлады. Працэс сацыялістычнага аднаўлення знаходзіць сваё адлюстраванне ў развіцці самакіруючыхся ды незалежных прафсаюзных арганізацый і працоўнага самакіравання. Найбольш шырокай платформай супрацоўніцтва ўсіх арганізаваных грамадскіх сіл і грамадзян, працуючых у карысць умацавання і развіцця Народнай Польшчы, стаў Патрыятычны рух нацыянальнага адраджэння...“

Гэтая цытата з „Тэзісаў“ у абагульняючай форме перадае сутнасць здзейсненых перамен. Аб гэтым ішла таксама гутарка ў час пленарнага пасяджэння Ваяводскага камітэта партыі ў Беластоку, якое праходзіла 8 мая гэтага года. Члены пленума абмяркоўвалі праблему: **„Заданні партыі ў прадстаўнічых і самакіруючыхся органах“.** Сакратар ВК ПАРП Мечыслаў Дарошка, выступаючы з дакладам, падкрэсліў, што ідэя самакіравання пранікла ў найглыбейшыя слаі нашага грамадства. Ажыццяўляецца яна ў час усеагульных тайных і непасрэдных дэмакратычных выбараў паслоў у Сейм і радных у рады гмінныя і ваяводскія, у сістэме дзейнасці і правамоцтваў працаўнічых рад на прадпрыемствах, заводах, фабрыках ды рознага роду ўстановах, у сялянскім самакіраванні кожнай салэцкай вёскі, салэцкіх радах, а ў гарадах — радах пасялковых, а ва ўсіх спулдзельнях, незалежна ад іх прадукцыйна-вытворчага ці гандлёва-паслуговага характару, дзейнічаюць рады надзорчыя як найважнейшыя ўстаноўчыя органы спулдзельні.

Такім чынам, толькі ў межах Беластоцкага ваяводства многія тысячы людзей, маючы давер сваіх калектываў, выказаных у выбарчым акце, удзельнічаюць

(Працяг на стар. 2)

# БЕЛАВЕЖА

СТАРОНКА ЛІТАРАТУРНА-МАСТАЦКАГА АБ'ЯДНАННЯ ПРЫ ГП БГКТ № 324


* * *

Столькі спакою
ўнутры вербалозаў
што хочацца гойкнуць
у абдымках цішы
ўцiснуцца ў душы
наднараўскіх гоняў
аставіць дрыжэнні
ў рачных вірах

крануць маё сэрца
так лёгка малітвай
коцікаў белых
пахучых вяснянак

і таюць снягі
ў дарожных загібах
вядуць сцяжыны
ў родныя імшары

**М. Базылюк**

* * *

Пасля вялікага падарожжа
З маланкай буры
Супакой прыходзіць.
Знясіленая звярына
Да крыніц вяртаецца,
Аслабленая птушка
Да гнязда спяшаецца...

Пакланіся і ты
Сваёй крыніцы,
Калысцы, быццам арцы...

І Слову,
Якое дало табе імя
І ГОНАР ЧАЛАВЕКАМ
ЗВАЦЦА!.

**Ю. Баена**

* * *

дзень мой не мінуў
у прошлым і будучым
ветру жыцця
каляровы спеў грае
ў маіх валасах і будзіць
са сну дрэннага...
за акном шчасця сад плача
там расце маё дрэва
пазнання і мудрасці
збянтэжанае
ўваччу круціцца танец пчол
а ногі бягуць у цёплы
прастор неба
ляжу ў аксамітных
пялёстках ружы
маё сэрца б'е

**Я. Шостак**

* * *

І хто ж гэтак нізка павесіў
Месяц над стрэхаю хаты?..
Шэпчуцца лісці таполі:
— За комін чапіў ён, рагаты!
А ў хаце дзяўчыне не спіцца —
У садок адчыніла акно.
Усё сэрца чагосьці баіцца,
Кагосьці чакае яно.
Ёй шэпчуць старыя таполі:
— Чаму не кладзешся ты спаць?
Бач, месяц за комін схаваўся,
Мо ў хованкі хоча гуляць?

**А. Анішэўская**



Малюнак М. Давідзюка

**Я. Чыквін**

* * *

Цёплыя фарбы жыцця:
Дзяўчаты пояць жывою вадой
Аргамакаў пры ганку. Шчокі гараць.
Хлопцы прыехалі. Хіба ў госці!
Сад поўны пчол. Адкрылі вакно.
Пад гукі гітары спявае хтосьці,
Срэбныя сцеле цянёты,
Свет спакушае.
Мяккасць ліп.
Скрылікі сонца ў летняй шкатулцы.
Душы напоўнены песняй малітв.
Радасць дзявочая сочнаю хваляй.

Выйшлі — і вывелі коней на вуліцу.
Грукат здзіўлення, даўкі жаль...

Маці з горада нясе памідоры
Ды кідае іх парасятам голым.

* * *

Капаціць ціхамірна. Ападае імгла.
Гэта ўсё на пагоду сонцапрамянную.
Толькі болю імгла з душы маёй не злягла
І душыць яе плітою мёртвакаменнаю.

Паўзе ў капілярах. Як іголкі праз мох.
З жару крыві расцвітаюць калючыя ружы.
У квецці гэтым ў грудзях лётае-кружыць
Спалоханы дрозд
З крыкам,
Чутным з высот галавы да паніжаных ног.

## ШАХМАТЫ

Які разгром!
Якое страшнае пабоішча!
Мёртвымі фігурамі засланы далягляд,
Пабіты пешкі ўсе і самадура дом
Ужо ў агні.

Па крывавай плошчы
Белы ферзь на рысаку-кані
Вядзе ў палон
Старога караля.

Віваты. Бубны б'юць. Звіняць літаўры.
О перамогі бляск! О вокамгненне славы!

Ды светлай воляю нябёс
(а мо панурай?)
На дошцы шахматнай зноў сфармаваны
Тут і там урад,
І зноў у бой пасланы пешачны народ,
А тыя самыя ўраднікі-фігуры
Стратэгіяй хітрацъ,
Хадамі то туды-сюды-назад,
То ракіроўкаю-рэформай,
То атакаю „глыбокі ход",
Каб, даўшы непрыяцелю тактычны мат,
У лiўрэях выйсці на парад!

А ўсё-такі баляць шахматныя раны,
Таму што ў гэтых гульнях
І мой лёс прайграны.

* * *

О, стойкія дзеці пушчы,
З непрыкметнай птушкай
У руках зялёных,
Ратуйце вашы душы.

Чуеце:
Грукат тапара,
Брынчыць піла,
Вішчыць піла.

Вянуць вязы —
Яцвягі.

Яліны-сёстры
У пошуме млосным.

Валяцца хвоі —
Зялёныя воі.

Дубы і асіны
Рагамі ласінымі.

Бярозы ў неўрозе
Бягуць пры дарозе.

Хліпаюць ліпы ліпнёвыя —
Лета падлеткі.

З агністых палян
У шчырае поле
Таропка топаюць
Таполі.

Ва ўсю шырыню дня
Ценю бегатня.

Гэта пад корань так
Карчуюць маладняк.

За ногі алешнікаў
Жалезнымі клешнямі.

Галёкае голле
Хімічна аголенае.

Драўляным горлам
Дрэва стогне
Гібее лясное сутонне.

## Навеянае вершамі Надзі Артымовіч

Каб пісаць аб паэзіі, трэба многа ведаць, а каб пісаць аб паэзіі крытычна — трэба ведаць яшчэ больш. Каб чытаць вершы як вершы, а не — на той прыклад — як тэлефонную кніжку, трэба быць самому крыху паэтам і мець у сабе закадаваную поўную свядомасць мінулага. Як выглядае сапраўдны свет, па праўдзе ведаюць толькі паэты. Больш. Яны ведаюць, які ён будзе праз некалькі год і праз дзесяткі гадоў і праз сотні гадоў. Мы, значыць — не паэты, не ведаем, што будзе заўтра і таму толькі чытаем вершы — не складаем іх. Такая больш-менш розніца між сапраўдным паэтам і чытачом яго творчасці.

У кожнай творчасці ёсць гуманнасць, бо творчасць характэрна ў прыродзе толькі чалавеку, бо такога чалавецтва, якое праяўляецца ў творчасці паэтаў не мае ніхто на свеце. Філосафы тлумачаць свет пры дапамозе логікі, паэты ствараюць логіку свету, як прырода, як сама неразгаданая натура. А самі яны натуру маюць вельмі далікатную. Адным словам, фальшам можна іх зняважыць, пакрыўдзіць, так што могуць замкнуцца на гады. Ці бачыў хтосьці „цвёрдага" паэта, упэўненага ў 100 працэнтах у сваёй творчасці? Паэт не будзе голасна абурацца на тваю крытыку яго паэзіі, бо ён ведае, што яго паэзія абароніцца сама, калі яна вартасная: адвакатаў не патрабуе.

А ці „цвёрды" чалавек можа быць паэтам? Чаму ж не?! Бывае! Але мякчэе з часам, як усё больш і больш становіцца паэтам. Наогул „цвёрды" чалавек паэзіі не стварае, але гэта не значыць, што ён яе не чытае.

А па чым пазнаць, што адны вершы з'яўляюцца паэзіяй, а другія — рытмізавана-рыфмізаванай складанкай слоў? Пытанне вельмі цяжкое і адначасова лёгкае. Напэўна паэзія гэта тое, пасля прачытання якога, чалавеча, робішся лепшым, лягчэйшым, хочацца табе жыць, ствараць, кахаць, плакаць... Але ці гэта напэўна так? Так і не так. А найгорш спазнаць паэзію, якую зусім не разумееш, але ў якой ёсць цэлая будучыня чалавечага роду. Не мінуўшчына — а будучыня...

Гэта магу сказаць пра спатканне з Надзяй Артымовіч і яе вершамі ў гданьскім клубе 22 сакавіка 1986 года.

**М. Махнацкі**

## Афарызмы

Голас тады адбіваецца рэхам, калі трапляе на перашкоду.

*

Хто ўмее толькі гаварыць, той рэдка калі ўмее слухаць.

*

Па хадзе пазнаюць фізічную здольнасць чалавека, па голасе — яговы ўнутраны стан.

*

Такім бачыш свет, якія тваe веды.

*

Чалавек бачыць свет вачыма і розумам.

*

Часам прыгажэйшымі ад песні ці музыкі бываюць успаміны, якія нас з імі спалучаюць.

*

Мудрасць — гэта капітал, які працэнтуе з ведаў.

*

Адукаваны — мудры чужой мудрасцю, мудрэц — мудры сваёй.

**Р. Бутайла**

## ТРЭБА ТОЛЬКІ ПРАЦАВАЦЬ З СЭРЦАМ..

26 красавіка 1986 г. у Бельскім доме культуры адбыўся раённы агляд „Беларуская песня-86“ (для бельскага раёна) для школьнікаў.

У аглядзе ўдзел прыняло 7 салістаў, 5 дуэтаў, 1 трыо, 3 квартэты і 3 вакальныя калектывы. На сцэне БДК, спецыяльна падрыхтаванай для гэтай урачыстасці, выступіла 62 асобы са школ з Аўгустова, Дубяжына, Райска, Пасынак, Храбалоў, Рыбалаў, Вулькі Нурэцкай і пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім.

Вялікая колькасць выканаўцаў і лічба школ, якія прынялі ўдзел у конкурсе, сведчаць аб тым, што беларуская культура не гіне, людзі імкнуцца распаўсюджваць яе.

Галоўнымі арганізатарамі агляду „Беларуская песня-86“ былі: Бельскі аддзел БГКТ, інспектар асветы і выхавання ў Бельску Падляшскім і Бельскі дом культуры. Дзякуючы разумнаму супрацоўніцтву трох установ, атрымаліся цудоўныя эфекты. Усё адбывалася згодна з апрацаваным планам.

Вялікая заслуга ў гэтым грамадскіх дзеячоў праўлення Бельскага аддзела БГКТ і працаўнікоў БДК.

Узнагароды прызналі абодва інспектары асветы і выхавання — у горадзе і гміне Бельск Падляшскі. Трэба адзначыць, што ў нашым раёне ніколі не было праблем у супрацоўніцтве з асветнымі ўладамі. Усюды і заўсёды праяўляюць яны прыхільнасць і заангажаванне.

Узнагароды былі дастасаваны да ўзросту выканаўцаў і прыдатны ў школе. Добрая ўзнагарода мае вялікі ўплыў на далейшую дзейнасць вучня і настаўніка ў радах БГКТ. Узнагарода ў форме запыленай кніжкі ці пласцінкі многіх удзельнікаў абражае, а ГП БГКТ кампрамітуе само сябе.

На фінальны агляд паедзе: 5 **салістаў, 4 дуэты, 1 трыо, 2 квартэты і 2 вакальныя калектывы.**

**У катэгорыі салістаў першае месца камісія прызнала Томку Лукашуку і Асі Лукашук з пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім, другое месца — Артуру Паўліку са школы ў Райску і Марыёлі Хмур са школы ў Дубяжыне, трэцяе месца — Эве Заброцкай са школы ў Аўгустове.**

У катэгорыі дуэтаў першае месца прызнана дуэту з пачатковай школы № 3 у Бельску Падляшскім — Асі Лукашук і Ані Кудзюк, другое месца — дуэту са школы ў Храбалах — Крысі і Ёлі Семянюк, аднназначнае другое месца заняў дуэт са школы ў Дубяжыне — Яўген Шэратуха і Славамір Ваўрэнюк, трэцяе месца заняў дуэт са школы ў Пасынках Аня і Ёля Касакоўскія.

У катэгорыі трыо першае месца прызнана вучням з пачатковай школы ў Вульцы Нурэцкай.

Першае месца ў катэгорыі квартэтаў прызнана вучням са школы ў Аўгустове, а другое — вучням са школы ў Райску.

Калектыў „Нашыя дзеці“ са школы № 3 заняў першае месца, другое месца заняў вакальна-інструментальны калектыў таксама з бельскай тройкі.

Узровень выканаўцаў быў розны. Балючай справай з'яўляецца недахоп прафесіяналаў для падрыхтоўкі вучняў да такіх мерапрыемстваў. Куды падзеліся настаўнікі, якія ўмеюць іграць і спяваць? Я, як абсальвент Педагагічнага ліцэя, ведаю, што кожнага вучылі спяваць і іграць на нейкім інструменце. Гэтыя людзі маглі б заняцца карыснай справай для свайго народа. Аднак многія настаўнікі і дырэктары школ праяўляюць абыякавыя адносіны да справў свае нацыянальнасці, бо гэта іх не цікавіць. Сумная гэта справа.

Ёсць вельмі многа вучняў, бацькоў, настаўнікаў, якія ўкладаюць душу ў справы, блізкія беларускаму народу, аднак не хапае ім прафесійнай дапамогі.

Вучні пачатковых школ спяваюць песні для дарослых, пес-

(Прапяг на стар. 6)

## КУЛЬТУРНАЯ СУСТРЭЧА

**8 мая бягучага года ў Нараўку прыбылі ўдзельнікі студэнцкага рэйда „Развітанне“. Яны сустрэліся з беларускім аматарскім калектывам з Нараўкі. Супольны вечар прайшоў у прыемнай атмасферы. Студэнты пазнаёміліся з песнямі ў выкананні жаночага хору, а потым самі спявалі ў суправаджэнні гітары Міраслава Пякарскага — студэнта Беластоцкай палітэхнікі, які паходзіць са Старога Ляўкова. Аб заданнях студэнцкага рэйда расказаў студэнт Валянцін Сельвясюк (родам з Махнатага з-пад Гайнаўкі). У часе спаткання пераважалі беларускія песні. Студэнты абяцалі яшчэ раз наведаць Нараўку.**

**М. Варанецкі**




**Пасеянае бацькамі ў сэрцы дзіцячым закаласілася шчодраю нівай... Спяваюць Анна і Ірэна Гадоньчук з Гданьска. Фота С. Грыцявіцкага.**

## ГАДЗІНКА Ў НАРВЕ

Была службовая справа для афармлення ў гміннай управе ў Нарве. Паехаў я.

Вось і Нарва. Я пастукаў у дзверы сакратара гміннай управы і ў адказ пачуў жаночы голас. За пісьмовым сталом, у цесным пакойчыку сядзела маладая, русая, прывабная жанчына, ды ветліва ўсміхалася мне. Зусім не так, як прывык я бачыць „урадавую“ асобу.

— Калі ласка, заходзьце, — заахвочвала яна. Я працягнуў ёй свой журналісцкі білет.

— Дзякую, не трэба, я вас ведаю, вы ж з „Нівы“, памятаю яшчэ, як вы бывалі ў нашым ліцэі...

I я адразу пачуў, што між намі праклалася нейкая нябачная кладка, якая спалучае два берагі адной ракі.

Магістр Марыя Аверчук параўнальна нядаўна стала сакратаром гміннай управы ў Нарве, але добра ведае справы.

Нашу гутарку перапыняе рэзкі званок тэлефона. Тут ён усё яшчэ, заўважаю, на „корбачку“. Сучасная тэлефонная тэхніка пакуль што да Нарвы не дакацілася. Нават з Беластока ці ў Беласток, каб пазваніць, трэба заказваць адпаведны нумар у міжгародняй цэнтралі, як паўстагоддзя таму назад.

Звоняць з гміннага асяродка здароўя. Размова, адчуваю, не належыць да прыемных.

Хтосьці з другога канца тэлефоннага провада цікавіцца справамі грамадскай апекі ў гміне. Сакратар у сваю чаргу кляйміць гультайства і фармальную бяздушнасць працаўнікоў, падпарадкаваных гміннаму асяродку здароўя, за іх абыякавы падыход да абавязкаў у час штодзённай апекі над адзінокімі і хворымі людзьмі, за тое, што не змаглі яны поўнасцю выкарыстаць грашовых фондаў, прадбачаных у гмінным бюджэце на грамадскую апеку. Аказваецца, што ў 1985 годзе Нараўская гміна мела звыш 2 мільёнаў 500 тысяч злотых на дапамогу людзям, якія не маюць дастатковых уласных крыніц утрымання. Выкарысталі няцэлых 2 мільёны злотых.

— Каму вы прызначаеце гэтыя грошы? — звярнуўся я да сакратара, калі яна закончыла гэтую, не вельмі ж прыемную, размову. — Ці ёсць яшчэ ў нас людзі настолькі бедныя, што неабходна ім дзяржаўная дапамога? То ж кожны, хто працуе — ці на ўласнай гаспадарцы, ці на нейкім прадпрыемстве, ці на дзяржаўнай пасадзе — мае гарантаванае пенсійнае або рэнтавае забеспячэнне на выпадак старасці і хваробы!

Пані Марыя цярпліва мяне слухала, а ўсмешка на яе вуснах здалася мне цяпер усмешкай літасці. Жыцця, маўляў, не ведаеш, чалавеча! Яна, аднак, спакойна мне адказала:

— У нашай гміне пражывае 40 чалавек, якім неабходна наша дапамога. Але болей у гэтай справе кампетэнтная ў нас **Галінка Монах,** наша працаўніца, якая якраз і займаецца грамадскай апекай. Зараз я паклічу яе.

Праз хвілінку ў кабінеце Марыі Аверчук паявілася зусім яшчэ маладзенькая дзяўчына з нясмелым позіркам і ўсхваляваным тварам. То ж ніколі невядома, чаго захоча ад чалавека нейкі там журналіст!

Галіне Монах прыпала ва ўправе Нараўскай гміны неблагая роля. У самым пачатку сталага жыцця давялося ёй сутыкнуцца з найбольш ганебнымі адносінамі чалавека да чалавека. Ды найчасцей гэтых людзей злучаюць блізкія, кроўныя сувязі, але раздзяляюць зусім абыякавыя пачуцці.

Вось адзін з прыкладаў, пра які расказвала мне Галінка Монах. Жыве ў адной вёсцы, недалёка ад Нарвы, адзін селянін. Я ведаю гэтую вёску, што рассялася каля шашы з Нарвы ў Гайнаўку, і запісаў прозвішча ды імя гэтага, цяпер ужо 82-гадовага чалавека. Не назаву аднак ані вёскі, ані селяніна, хаця крычаць хочацца ад гневу. Скажам, што завуць яго Дзяменцій. Жыццё сваё, як кожны руплівы селянін, правёў ён вельмі працавіта. Выгадаваў і ўладкаваў у свеце чацвёра дзяцей. Калі сіл не стала хадзіць за плугам і цягнуць касу, дзядуля Дзяменцій аддаў зямлю дзяржаве ў замен за пажыццёвую пенсію. Прызналі яму 8600 зл. гэтай пенсіі, і дзя-

# Бібліяграфічны куточак

У днях 10-12 чэрвеня г.г. у Археалагічным музеі ў Гданьску, што на вул. Мар'яцкай № 25/26, адбудзецца аўкцыён, на якім будуць прадавацца з таргоў кніжкі, часопісы, лістоўкі, афішы. Ніжэй падаем, паводле аўкцыйнага каталога, загалоўкі тых кніг, якія могуць зацікавіць таксама нашых чытачоў.

Poz. 354 — Boniecki A., Poczet rodów w Wielkim Księstwie Litewskim w XV i XVI wieku. W-wa 1887. Cena wywoławcza 24 tys. zł.

Poz. 400 — Холмский Греко-Униятский Месяцеслов на 1874 год с приложением... карты российских железных дорог. W-wa 1873. C. w. 1,2 tys. zł

Poz. 429 — Czarnowski O., Historia kolonizacji polskiej w dawnych wschodnich województwach Rzeczypospolitej... Opatów 1937. C. w. 360 zł.

Poz. 562 — Głosy z nad Niemna 1917 r. I. Jednodniówka Grodzieńska. Grodno 1918. C. w. 600 zł.

Poz. 568 — Goławski M., Kazimirowski E., Białystok. Przewodnik po mieście i okolicy. Białystok 1939. C. w. 600 zł.

Poz. 635 — Hedemann O., Dzisna i Druja. Magdeburskie miasta Wilno 1934. C. w. 1,6 tys. zł.

Poz. 689 — Janus J., Wielki pasterz na wschodnich rubieżach ś.p. Zygmunt z Łozin-Łoziński, biskup piński (ur. 1879 — zm. 1932). Melbourne 1956. C. w. 600 zł.

Poz. 868 — Kubicki P., Bojownicy kapłani za sprawę Kościoła i Ojczyzny w latach 1861—1915. Materiały z urzędowych świadectw władz rosyjskich, archiwów... oraz głosów prasy. T. IV. Dawna Litwa i Białoruś. Sandomierz 1940. C. w. 2 tys. zł.

Poz. 881 — Kurczewski J., Biskupstwo wileńskie od jego założenia aż do dni obecnych... Wilno 1912. C. w. 6 tys. zł.

Poz. 969 — Mackiewicz S., Statut Litwy Środkowej. Wilno 1922. C. w. 400 zł.

Poz. 988 — Matuszewicz M., Pamiętnik... kasztelana brzeskiego-litewskiego 1714—1765. T. 1—4 (w 2 wol.). W-wa 1876. C. w. 6 tys. zł.

Poz. 1039 — Mościcki H., Powstanie 1831 roku na Litwie, Wspomnienia uczestników. Wilno 1931. C. w. 1,2 tys. zł.

**(Працяг на стар. 8)**

# Трэба толькі працаваць з сэрцам...

**(Працяг са стар. 4)**

ні, якія пачулі на вяселлі ці якой іншай сямейнай урачыстасці.

Дзеецца гэтак таму, што няма спеўніка з беларускімі песнямі для школ. Чаму ніхто не зацікавіцца гэтай справай? Любоў да народнага прывіваецца ў маленстве, душа дзецяці вельмі чулая і схільная браць усё, чым насычаюць яе дарослыя. Калі дарослыя, дзеячы беларускай культуры, не стараюцца прышчапіць роднага, блізкага і добрага і не заўважаюць недахопаў у галіне беларускай культуры, то трэба памятаць, што ў будучыні крыніца народнасці высахне зусім.

Толькі ў бельскай тройцы працуе спецыяльны калектыў беларускай песні. У іншых школах часам чуецца беларуская песня на ўроку музыкі, ці на ўроку роднай мовы, пры нагодзе. А шкада! Шкада, што дырэктары і інспектары бачаць толькі пазашкольную дзейнасць па іншых прадметах. Добра было б, каб некаторыя іначш пачалі глядзець на акружаючую нас рэчаіснасць, праявілі большае зацікаўленне справамі беларускай культуры. Усё гэта так мала каштуе, а карысць была б вельмі вялікая. Ці ж нельга ўтварыць у школах (платныя для настаўнікаў) гурткі роднай культуры?

Калі ж гаварыць пра конкурсы, то вельмі важнай справай з'яўляецца падборка журы. Як жа хочацца, каб там былі людзі сур'ёзныя і спецыялісты. Можна быць любіцелем, але каб справядліва ацаніць, патрэбны знаўца, для якога ўсе дзеці роўныя.

Ацэньваць трэба рэпертуар і яго выкананне, а не іншыя справы! Арганізатары фінальных аглядаў павінны памятаць, каб добрая была зала, адпаведная тэхніка, дэкарацыя, панаваў лад і парадак. Моладзь за ўсім назірае і арганізатары не павінны пра гэта забываць.

У гэтым тэксце можна чытаць паміж радкамі, аднак не трэба дашукоўвацца скрытага значэння і трэба чытаць так, як напісана.

**Сум-шум**

# Родныя краявіды



Драгічын над Бугам. Графіка Уладзіслава Петрука.

# Чэмпіянат гміны

У красавіку ў Бельску быў наладжаны чэмпіянат гміны ў бегах, яго арганізавалі ЛЗС Гмінная управа. Было тлумна і ўрачыста. У чэмпіянаце прыняло ўдзел сто семнаццаць спартсменаў, а ў іх ліку аж пяцьдзесят дзевяць дзяўчат.

Якія былі вынікі?

З дзяўчат — на тысячу метраў найхутчэй пабеглі: бяльчанка Юстына Шульц, а таксама — абедзве з Малінніказ — Барбара Антанюк і Аня Такачук. У прабегу на паўтара кіламетра першай прыбегла на мэту Івона Антасюк з Орлі, а за ёю — Івона Сачук з тых жа Маліннікаў і яе малінніцкая сяброўка Аня Сасна. На два кіламетры — лаўры першага, другога і трэцяга месца засталіся ў бяльчанак Эдыты Маеўскай, Ірэны Сяргеюк і Уршулі Валасінскай. На дзве тысячы пяцьсот метраў — першай была Аліна Тапалеўская з Бельскага беларускага ліцэя, і з таго ж ліцэя трэцяй была Галіна Таранта; другою — Марыся Андросік з будаўнічага вучылішча. На тры кіламетры бесканкурэнцыйна пабеглі вучаніцы электратэхнічнага вучылішча Бажэна Вінская, Галена Усцілка і Галена Ляшчынская.

А як беглі хлопцы?

На дыстанцыю 1500 м: Мар'юш Жукоўскі, Дар'юш Канашынскі, Марцін Герман. На 2000 м — Іван Мацеюк, Пятро Оса, Януш Герман; на 2500 м — Пятро Шымчук, Яраслаў Окунь, Войцех Валыняк; на 3000 м — — Іван Мойсік, Яўген Аверчук Андрэй Хіліманюк. І на пяць кіламетраў у найпершай тройцы апынуліся Славамір Саўчынскі, Толік Саўчынскі, Лёва Федарук. Акрамя двух — Осы з Орлі і Аверчука з Дубяжына — уся слава хлапцоўскіх бегаў апынулася ў руках бяльчанаў (у іх ліку трое з Беларускага ліцэя — Мойсік, Хіліманюк і Федарук).

Суддзёю быў Мікола Гонта.

**Андрэй Гаўрылюк**

# Ваенныя сцежкі

# Пад Монтэ-Касіна

Канчаткова ваенныя сцежкі завялі сапёра 5 Крэсавай пяхотнай дывізіі Яна Бартнічука пад праслаўленую гару Касіна. Выццам арлінае гняздо, вісела яна над адзінай горнай дарогай, якая вяла з поўдня Італіі ў Рым. І па гэтай дарозе павінны былі прайсці аб'яднаныя сілы заходніх альянтаў.

Ды толькі ў гняздзе на Монтэ-Касіна расселіся немцы, перш за ўсё I дэсантная адборная дывізія, узмоцненая яшчэ двума высакагорнымі батальёнамі, спецыяльна падрыхтаванымі да барацьбы ў цяжкой горнай тэрыторыі. Па суседніх горных масівах размяшчаліся яшчэ іншыя гітлераўскія часці. Разам праход на поўнач Італіі бараніла нейкіх шэсць варожых палкоў. Кожны батальён меў у сваім распараджэнні многаствольныя мінамёты, калібра 50 і 80 міліметраў, якія ўтваралі шматслаёвую абарону. Сілу агня гітлераўцаў узмацняла 230 гармат, з якіх 159 перш за ўсё бараніла Монтэ-Касіна, а іншыя вялі амаль бесперабойны агонь па камунікацыях наступаючых альянтаў.

Аўтары апрацоўкі „Польскі ўзброены пачын у II сусветнай вайне" ў раздзеле „Бітва за Монтэ-Касіна" сцвярджаюць:

„У горных масівах... Монтэ-Касіна немцы загадзя падрыхтаваліся да кругавой абароны. Яны разбудавалі цэлую сетку агнявых бункераў і сховішчаў, пераважна жалезабетонных, часта двухэтажных, з якіх падземная частка служыла для адпачынку, а верхняя частка — агнявая. Доты спалучаліся сувязнымі канавамі, якія пераўтвараліся таксама ў агнявыя траншэі, калі немцы вымушаны былі пакінуць свае сховішчы. Гітлераўцы ўмела выкарыстоўвалі ўсялякія будоўлі і скальныя глыбы, а таксама і англійскія танкі, пашкоджаныя ў час папярэдніх атакаў".

Цэлая гэтая сістэма гітлераўскай абароны ўкладвалася ў дзве лініі. Адна з іх называлася „лініяй Густава", а другая — „лініяй Гітлера". Ад студзеня 1944 года ламалі на іх зубы, рукі і ногі ды трацілі галовы англічане, французы, амерыканцы, канадцы, індыйцы ды многія іншыя нацыянальнасці, якія складалі армію Аб'яднаных заходніх сіл. Тадышні прэм'ер-міністр Вялікабрытаніі, Уінстан Чэрчыль пісаў сваму генералу Аляксандру:

„Хацеў бы прасіць вас, містэр генерал, каб вы паяснілі мне, чаму гэты пераход цераз Касіна, Манастырскую Гару і г.д. на адрэзку вышынёю ў нейкіх 2-3 мілі з'яўляецца якраз адзіным месцам, за якое вы, містэр генерал, вымушаны бесперапынку змагацца? Амаль 5-6 дывізій прапала ўжо ў гэтай ненасытнай пашчы..."

Адказ быў адносна просты. Аб'яднаныя заходнія сілы імкнуліся як мага хутчэй вырвацца з закупоранага італьянскага паўвострава, каб яшчэ летам 1944 года адолець горныя масівы Апенінаў і пад восень гэтага года дабрацца ў раён Альпаў. Гэта тут пачыналася змаганне за тое, хто хутчэй — рускія ці альянты — дабяруцца да гітлераўскага логава. Апрача таго, поспех у Апенінах быў вельмі патрэбны для ўдачнай высадкі альянтаў у паўночнай Францыі, на ўзбярэжжы Нармандыі. Трэба было ціснуць гітлераўцаў у Італіі, каб не змаглі яны перакінуць ані адной сваёй дывізіі на поўнач Еўропы. Бітва за Рым, якая ў пачатку 1944 года распачалася пад Монтэ-Касіна, была адначасова бітвай і за Берлін.

Тры разы: у студзені, лютым і сакавіку 1944 года аб'яднаныя сілы атакавалі гару Касіна. На жаль, без поспеху. Адно толькі змаглі падцягнуць крыху бліжэй свае сілы, каб іншыя, каму выпадзе атакаваць гэтую святую, але праклятую гару, мелі болей спрыяльную зыходную пазіцыю.

Пад канец сакавіка 1944 года генерал Аляксандр, які каман-

# СОННІК

—22—

**Вош** — мець — многа грошай; забіць — цябе абміне небяспека; у іншых бачыць — удачы ў працы і гаспадарцы, павелічэнне заможнасці.

**Вуглавы дом** — першынство перад іншымі.

**Вуголле** — палаючае — гарачае каханне; бачыць яго — багацце і шчасце; чалавек, які развозіць або грузіць вугаль — хутка дойдзеш да мэты.

**Вугор (рыба)** — есці — не слухай паклёпнікаў; злавіць — табе зайздросціць; калі выслізгнецца з рук — уцячэ ад цябе даходлівы занятак; бачыць яго ў вадзе — дайсці да чагосьці хітрасцю; звіваецца — непрыемныя навіны; рэзаць яго — смерць твайго ворага.

**Вуда** — надарма траціш сілы; лавіць ёю рыбу — выйгрыш у латарэі.

**Вуж** — розныя перашкоды, цябе перахітраць і падвядуць сябры; з некалькімі галовамі — спакушэнне; стацца вужом — будуць табой пагарджаць і зневажаць цябе; злавіць яго — спакуса; не магчы ўцячы ад яго — благая будучыня; укусіць цябе — парушэнне сямейнага спакою; бачыць, як напружваецца — шчасліва пазбегнеш небяспекі; забіць — трыумф над ворагамі.

**Вуздэчка** — перашкоды; надзяваць — запросіны ў падарожжа.

**Вузел** завязваць — здабудзеш добрых сяброў; развязваць — пазбегнеш небяспекі.

**Вуліца** — удачы ў жыцці; доўгая і з прыгожымі дамамі — цябе чакае прыемнасць; яскрава асветленая — вялікая радасць; патанаючая ў цемры — няпэўны заўтрашні дзень.

**Вулкан** — незвычайныя прыгоды, пераварот у жыцці.

**Вуллі** бачыць — багацце, заможнасць.

**Вусны** — знойдзеш сабе паклоннікаў; чырвоныя — дабрабыт; крывавячыя — цябе ўвядуць у зман.




Дарагое Сэрцайка!

Мой ліст навеяны артыкулам Аўроры „Праз год ізноў прыду" („Ніва" ад 13 красавіка 1986 г.). Аўрора ў бальніцы сутыкнулася з не зусім нармальнай дзяўчынай, якая ахвотна б радзіла дзяцей, але не хоча іх сама выхоўваць. Аўрора лічыць, што калі ўжо маці нарадзіла дзіця, то яна яго найлепш выхавае — незалежна ад таго, нармальная яна ці не зусім. Ёсць там таксама іншы аспект справы. Напрыклад, прыбіральшчыца з бальніцы, у якой ляжала Аўрора, высоўвае пастулат, што такім бабам трэба рабіць укол на бясплоднасць, ды і дакарае мужчын, якія „лезуць" да такіх баб.

А я ў сувязі з гэтым хачу расказаць пра маю цётку Зосю. Ад нараджэння была яна не зусім нармальная. Амаль не гаварыла і ў школу не магла хадзіць. Але ніколі не была ваяўнічая, не зрабіла ніводнаму чалавеку ніякай крыўды. Найчасцей штосьць простае рабіла каля хаты або на кухні: то карміла курэй, то скрабла бульбу, то насіла ваду са студні, калі ёй казалі.

Адзін быў заўсёды клопат з Зосяй: мела яна несамавітую цягу да мужчын. І „гэтую справу", відаць, таксама добра ведала. Я тут, барані Божа, не перабольшваю: мужчыны наперабой прыставалі да яе. Не ведаю, што іх так узбуджала, мо якраз яе іншасць, непаўнаспраўнасць, а мо, не ўмеючы фактычна рабіць нічога іншага, умела яна поўнасцю, без рэшты, аддавацца „каханню".

Мы, каб не мець клопатаў, ганялі гэтых мужчын, як маглі. Аднойчы бачу: Зося на полі стаіць ракам, а каля яе круціцца нейкі інтэлігенцік. „Пане шаноўны! — кажу я. — Ці ж вам не сорамна? Няўжо вы не бачыце, што гэта жанчына ненармальная? Хворая яна, не разумее?" Але чалавек гэты сваёй „работы" нават не перарваў. Тады я накінулася на яго, але Зося з усёй сілай адапхнула мяне...

Праўда, калі ўжо здаралася, што цётка зацяжарыць, то была навучана, што трэба аб гэтым сям'і паведаміць. Гаварыла: „Няма чырвонага!", а мы вялі яе тады на скрабанку. Такім чынам, яе фантазія заставалася ў сферы недарэчнага хацення, але не пускала яна на свет нешчаслівых дзяцей.

Але аднойчы мы Зосю не ўпільнавалі. Яна закахалася. Быў гэта невялічкі гарбаценькі чалавек, з якім Зося ўцякла ў лес. Была якраз вясна, і ў лесе было ўжо цёпла, але нам не прыйшло нават у галаву, калі мы яе шукалі, што маглі яны быць там. Шэсць месяцаў пражылі ў шалашы, кормячыся адно грыбамі і ягадамі. А к зіме Зося вярнулася дахаты... Было ўжо холадна. Ды і абдзёртая суконка ледзь сыходзілася на Зосевым жываце.

Тады Зося нарадзіла хлопца.

Хлопец быў, як і маці, недаразвіты, і яго аддалі ў спецыяльны дом дзіцяці. Сёння ўжо гэта вялікі хлопец, але, вядома, толку з яго ніякага няма. Таксама, як і маці, ён мала што гаворыць, мала разумее і не вучыцца грамаце. А мне непрыемна, што ў мяне ёсць такі дваюрадны брат, якога мусяць выхоўваць манашкі. Ды і што з яго за карысць грамадству?

Так што, Сэрцайка, прашу цябе, растлумач гэтай вашай Аўроры, што не заўсёды маці, якая нарадзіла сына, можа і павінна яго выхоўваць. А найлепш, вядома, каб зусім не радзіла.

**Анэта**

Анэта, вашу сям'ю сапраўды праследуе трагедыя. Наогул цывілізаваныя людзі, якія ведаюць, што яны хворыя на нейкую хваробу, якая абавязкова перадасца іх дзецям, стараюцца дзяцей не мець.

Што ж, і вы хацелі асцерагчы перад гэтым Зосю, ды толькі вам гэта не ўдалося. Аўрора, гаворачы пра маці, якія павінны выхоўваць самі дзяцей, думала, бадай, пра тых жанчын, якія ўсё ж былі б у стане даць сваім дзецям мінімум выхавання. Ваш выпадак выключна трагічны. Тым больш, што кастрацыя, бадай, забаронена (як і эўтаназія). Паводле права, жывы чалавек мусіць жыць, а з гэтым ідзе ўсё іншае, што дадзена чалавеку.

Што датычыць мужчын, якія не маюць ні літасці да хворых жанчын, ні мінімальнага пачуцця эстэтыкі, скажу толькі адно. Многа яшчэ звяроў ходзіць у чалавечай скуры, і іх звярыная натура ў кожнага праяўляецца па-рознаму. Застаецца нам толькі верыць у тое, што або канчатковa ператорацца яны ў ваўкалакаў і перастануць звацца людзьмі, або людзі (сярод якіх жывуць жа!) вытравяць з іх воўчае нутро.

**Сэрцайка**

## ЧАМУ Ў СУБОТЫ НЕ СТРЫГУЦЬ?

У цэнтры **Гайнаўкі** знаходзяцца чатыры цырульні, у тым ліку дзве па вуліцы Мар'яна Бучка. **Вельмі шкада, што ніводная з іх не працуе ў суботу. Як вядома, у канцы тыдня ёсць найбольш ахвотных падстрыгчыся. Гэтак было і ў суботу, 15 сакавіка 1986 г.**

У Гайнаўцы зараз усё больш мужчын ходзіць з доўгімі валасамі, апушчанымі на патыліцу. Пра іх кажуць, што яны носяць „мандаліны". (яц)




## МАЛОЧНЫЯ СУПЫ

### Малочны суп з бульбай і морквай

На 6 шклянак малака трэба ўзяць 7 бульбін, 4 морквы, 2 сталовыя лыжкі масла, 1 сталовую лыжку цукру, соль.

Бульбу нарэзаць вялікімі кавалкамі, а моркву — больш дробнымі. Моркву варыць у невялікай колькасці пасоленай вады мінут 15-20. Далажыць нарэзаную бульбу, пасля чаго ўсё зварыць і зліць ваду. Тое, што засталося ў каструлі, заліць гарачым малаком, дадаць масла і цукар і ўсё давесці да кіпення.

### Малочны суп па-беларуску

На 4 шклянкі малака бярэм дзве шклянкі вады, 1 морквіну, 1 яйцо, паўтары шклянкі мукі, 2 чайныя лыжачкі цукру, 1 сталовую лыжку масла, соль.

Малако змяшаць з вадой і давесці да кіпення. Дадаць сцёртую моркву і соль і зварыць. Да мукі дадаць яйцо і крыху вады, пасля чаго перамяшаць гэта так, каб атрымалася маса, маючая выгляд густой смятаны. Паступова ўліваць яе ў суп, хутка мяшаючы. Перад канцом варкі дадаць цукар і масла.

### Малочны суп з бульбянымі клёцкамі

На 6 шклянак малака трэба ўзяць 12 бульбін, 2 шклянкі вады, 1 сталовую лыжку малака, 1 яйцо, соль.

Сырую бульбу сцерці на тарцы: выціснуць яе праз марлю і дадаць яйцо. З атрыманай масы рабіць невялікія шарыкі. Малако развесці вадой і давесці да кіпення. Укінуць у яго клёцкі і варыць на малым агні. Гатовы суп пасаліць і дадаць масла.

### Малочны суп з грэцкай крупой

На 6-7 шклянак малака патрэбны 3/4 шклянкі грэцкай крупы, 2 чайныя лыжачкі цукру, 1 сталовая лыжка масла, соль.

У кіпячую ваду (3 шклянкі) усыпаць крупу і крыху падварыць яе. Тады ўліць малако і варыць мінут 10-15. У гатовы суп дадаць цукар, соль і масла.

### Зацірка

На 1,5 шклянкі мукі трэба ўзяць 1 яйцо, 4 шклянкі малака, 4 шклянкі вады, 2 чайныя лыжачкі цукру, 1 сталовую лыжачку масла, соль.

Муку змяшаць з яйцом і невялікай колькасцю вады. Цеста пасячы на дробныя кавалачкі і зварыць у малацэ, змешаным з вадой. Пасля гэтага дадаць цукар, соль і масла.

**Гаспадыня**

(Працяг са стар. 6)




Poz. 1093 — Ogijenko I., Wzory pism cyrylickich X—XVII w.w. W-wa 1927. C. w. 2,4 tys. zł.

Poz. 1107 — Ormicki W., Życie gospodarcze Kresów Wschodnich Rzeczypospolitej Polskiej. Kraków 1929. C. w. 1,5 tys. zł.

Poz. 1111 — Ossendowski F. A., Polesie. Poznań b.r.w. C. w. 4 tys. zł.

Poz. 1112 — Ossendowski F. A., Puszcze polskie. Poznań b.r.w. C. w. 6 tys. zł.

Poz. 1121 — Paczoski J., Lasy Białowieży. Poznań 1930. C. w. 1 tys. zł.

Poz. 1127 — Памятная книжка Люблинской губерни на 1901 год Люблин 1901. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1152 — Piekarski S., Wyznania religijne w Polsce. (M.in. Prawosławie). W-wa 1927. C. w. 280 zł.

Poz. 1162 — Pietkiewicz Cz., Kultura duchowa Polesia Rzeczyckiego. Materiały etnograficzne. W-wa 1938. C. w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1420 — Танк М., На этапах Вершы. Вільня 1936. C.w. 1,2 tys. zł.

Poz. 1466 — Volumina Legum. T. X. Konstytucje Sejmu Grodzieńskiego z 1793 roku. Poznań 1952. C. w. 900 zł.

Poz. 1484 — Wasilewski L., Litwa i Białoruś. W-wa—Kraków 1925. C. w. 600 zł.

(Працяг на стар. 11)

# Зорка

## Старонка для дзяцей





Ася і Марцін Трашчоткі са Старога Беразова. Фота В. Рудчыка.

## Для самых маленькіх

### БЕЛАРУСКАЯ НАРОДНАЯ КАЗКА

## СЫНОК-З-КУЛАЧОК

Жыў дзед і баба. І быў у іх сынок. Ды такі малы, што з-пад шапкі не відаць. Не большы за кулак. Так дзед з бабай яго і звалі: сынок-з-кулачок.

Паехаў аднойчы дзед араць, а бабе сказаў, каб згатавала абед ды прынесла яму на поле.

Баба згатавала абед ды кажа да сына:

— Каб ты быў большы, дык занёс бы бацьку абед на поле за мяне. А так мне самой трэба ісці.

А сынок падхрабрыўся і кажа:

— Давай, мама, занясу абед.

— Дзе табе данесці яго? — не верыць маці.

— Данясу!

Узяў сынок-з-кулачок абед, паставіў у дзедаў лапаць, сам сеў і паехаў.

Едзе сабе і песенькі спявае. Прыехаў на поле, гукае бацьку:

— Тата, я табе абед прывёз!

Убачыў яго бацька, зарадаваўся:

— Малайчына, сынок!

Сеў ён абедаць, а сын кажа:

— Тата, пасадзі мяне на саху, я араць буду.

— Як жа ты будзеш араць?

— А паглядзіш, — кажа сын.

Пасадзіў яго бацька на саху. Сынок-з-кулачок узяў лейцы ў рукі і крыкнуў на каня:

— Но, сівы-буры!

І пачаў араць.

Ехаў дарогаю пан у брычцы. Убачыў ён такое дзіва.

— Прадай, дзед, мне свайго аратага, — кажа пан.

— Не, пане, не прадам: гэта мой сынок.

А пан прычапіўся, як смала: прадай ды прадай!

— Я табе, — кажа пан, — шмат грошай дам.

Пачуў гэта сынок, падбег да бацькі і шэпча яму:

— Прадай, тата, толькі вазьмі ў пана за мяне жменю золата. Не бойся, я ад яго ўцяку...

Згадзіўся дзед і прадаў пану сына за жменю золата.

Узяў пан хлопчыка, пасадзіў у кішэнь і паехаў. „Вось, — думае, — добрага аратага нажыў. Гэткага ні ў каго няма. Няхай зайздросцяць мне ўсе паны!"

Тым часам хлопчык прадраў панскую кішэню, цішком вылез з яе ды выскачыў з брычкі. Пан нават і не пачуў. Паехаў сабе дамоў хваліцца дзіўным аратым.

Агледзеўся хлопчык, аж кругом яго густы лес. Пахадзіў ён, пахадзіў па лесе і заблудзіўся. А тут вечар настаў. Сеў ён пад ёлкаю і плача.

Адкуль ні натрапіўся галодны воўк. Ухапіў ён хлопчыка і праглынуў яго.

Апамятаўся хлопчык, пачаў брыкацца ў воўчым жываце, пачаў крычаць:

— Гэй, воўк, нясі мяне дахаты!

— Не панясу, — кажа воўк.

— Нябось, панясеш, як надакучу табе.

— Паглядзім, — агрызнуўся воўк і пабег у поле шукаць авечак.

Прыбягае да чарады авечак, а хлопчык як крыкне з воўчага жывата:

— Гэй, пастухі, воўк па авечкі крадзецца!

Пачулі гэта пастухі, прагналі злодзея. Ды яшчэ і сабак нацкавалі на яго.

Прыбег воўк у лес і кажа хлопчыку:

— Вылазь вон!

— Не вылезу, — адгукаецца хлопчык. — Нясі мяне дадому

(Працяг на стар 10)

Аляксандр Сцепанец

## ЖЫВЫ КАПЯЛЮШЫК

Сухі спякотны дзень. Сівы мох трашчыць пад нагамі, нібы падсмажаны. А грыбы, як ні дзіўна, трапляюцца на кожным кроку — свежыя, крамяныя, крохкія.

Дзяўчынка кожны раз ускліквае ад шчасця, калі знаходзіць карычневы пругкі баравік ці заўважае чырвоны капялюшык маладога падасінавіка. Вось яна подбегам накіравалася да стажка ўзнятага зялёнага моху. Капялюшыка грыба не бачна, толькі белая ножка свеціцца ў вузкім цёмным разрыве.

Хто ж там хаваецца? Не паспела дзяўчынка схіліцца над грыбам, як раптам з-пад ног у яе выскачыла невялічкая шэрая птушка і, неяк дзіўна перавальваючыся з нагі на крыло, пакулялася прэч.

Дзяўчынка застыла на месцы, але потым надумала дагнаць птушку, каб даведацца, што з ёю. Вось-вось яна схопіць яе, яшчэ крок — і птушка будзе ў руках. Ды не проста гэта зрабіць, уцякачка, нібы ачуняла, бяжыць раўней, дзе-нідзе ўзлятае над зямлёю. А дзяўчынка не адстае, жаданне дапамагчы птушцы не дазваляе спыніцца — шчокі гараць, хусцінка збілася на плечы, кошык з грыбамі застаўся далёка ззаду.

Дзіўна, чым хутчэй бяжыць дзяўчынка, тым больш яна адстае. Раптам птушка моцным узмахам крылаў лёгка адрываецца ад зямлі і, праляцеўшы некалькі метраў, садзіцца на высокі сасновы сук. Не зважаючы на дзяўчынку, якая пагналася за ёю, пачынае чысціць пёркі. Збянтэжаная дзяўчынка пазірае то на сасну, то на дзеда, які стаіць удалечыні, ля таго месца, адкуль выскачыла птушка.

— Хадзі сюды, Аленка! — гукае дзед. — Ну што, не дагнала птушку? — пытаецца ён, калі ўнучка падыходзіць бліжэй. На вуснах старога хітраватая ўсмешка.

Дзяўчынка ў адказ разгублена разводзіць рукамі.

— Ну дык глядзі сюды. — Вузлаваты палец дзеда паказвае ўніз. Побач з маленькай елачкай дзяўчынка заўважае два шэрыя камячкі. Птушаняты прытаіліся на лясной падсцілцы, амаль зліваюцца з ёю, вочы іх заплюшчаны. Сядзяць — не варухнуцца, хоць добра чуюць людзей.

Дзяўчынка хвіліну думае, глядзіць на бездапаможных птушанят, потым паварочвае галаву ў той бок, дзе засталася іх маці. Здаецца, яна пачынае разумець хітрасць і небяспеку, на якія пайшла птушка, каб адвесці бяду ад гнязда.

— Дзеду?! — у голасе дзяўчынкі чуваць здзіўленне і трывога.

Стары адгадвае пытанне.

— Яна маці, Аленка, — адказвае ён і ласкава гладзіць светлыя валасы ўнучкі.

Дзяўчынка асцярожна працягвае рукі да птушанят, каб прылашчыць іх.

— Не трэба, — папярэджвае дзед, — птушка адчуе чужы пах і можа пакінуць гняздо. Хадзем адсюль, малыя, пэўна, есці хочуць.

## СЛУХАЙЦЕ І СПЯВАЙЦЕ!

Змяшчаем словы песні, якую вы пачуеце ў беларускай перадачы па Беластоцкаму радыё ў суботу 31 мая а 18-ай гадзіне.

# ТОЛЬКІ З ТАБОЮ

**Толькі з табою мне хочацца жыць**
**Толькі з табою**
**Радасць і шчасце і гора дзяліць**
**Толькі з табою.** бiс
**Выйсці у поле, дзе нівы шумяць**
**Там над ракою**
**Першую зорку у небе спаткаць**
**Толькі з табою.** біс

**Рэнняй часінай к табе я лячу**
**Позняй пароюю.**
**Толькі табе прыглядзецца хачу**
**Сэрцам, душою.** біс
**І не так страшна ісці па пуці**
**Будзе з табою**
**І так ісці неразлучна ў жыцці**
**Толькі з табою.** біс



**Апошні ўрок.**






**— Зноў ты тую ж касету паставіла!**

### АДКАЗАЎ

— Як табе не сорамна хадзіць з такімі бруднымі вушамі?!

— А што ж мне рабіць, мама, калі ў мяне няма іншых?

### ПАЗАЙЗДРОСЦІЎ

— Добра жыве! — зайздросціць Андрэйка, выйшаўшы ад лекара-гарлавіка.

— Чаму?

— Пускае люстэркам „зайчыкі", а ўсе толькі раты разяўляюць.

### ЗАДАВОЛІЎСЯ

Максімка ўважліва разглядае немаўля ў калысцы.

— Мама, і я такім быў?

— Дакладненька.

— Вось накатаўся.

### УДАКЛАДНІЎ

Выйшла маці пагуляць з пяцігадовым Петрыкам, які адзеў купленыя бацькам боткі, ды й сустрэла ў парку знаёмую. Разгаварыліся.

— Які сімпатычны ў цябе сыночак, — пачала аглядаць знаёмая малога з ног да галавы. — Зусім як мама. Усё ў яго тваё: і бровы, і вочы, і губы. Нічога бацькавага няма.

— А боткі?! — разгневаўся хлопчык на няўважлівую цётку.

### ВЫТЛУМАЧЫЎ

— Ты чаму не ясі, Міколка? — пытае маці маленькага сына. — Толькі што сказаў, што галодны, быццам воўк!

— А ты калі-небудзь бачыла ваўка, які есць моркву?



**Які духоўны ўздым! Пісьменнікаў зрабілася больш, чым чытачоў, паляўнічых — больш, чым зайцоў, а рыбакоў — больш, чым рыбы.**

### НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

— Мама, вы ідзеце да цёткі Марыі?

— Пайду, даведаюся, што піша яе Паўлуша з арміі.

— Не хадзіце, бо цёткі Марыі няма дома.

— А дзе ж яна?

— Казала бабуля Макарыха, што Паўлуша атрымаў медаль, і цётка Марыя зараз у сёмым небе.

*

Джон наведаў у бальніцы настаўніцу. Потым у класе расказвае сябрам:

— Становішча безнадзейнае. Заўтра яна прыйдзе ў школу.

*

Пастар — хлопчыку:

— Ты молішся перад ядой?

— Не. Мая маці добра варыць.

### ТРАПНЫ АДКАЗ

Спражэнне дзеясловаў
Настаўнік растлумачваў.
На ўроку ж вучань Вова
Рашаў красворд-задачу.
Спытаў яго настаўнік:
— Які то будзе час:
Я сплю, ты спіш, ён спіць?..
— Ноч. — Вовін быў адказ.

**Міхась Гарнак**

### ЗНОЎ ДВОЙКА

Тата з мамай схіліліся над бучнёўскім сшыткам з заклапочанымі тварамі. Іх сын-другакласнік хадзіў узад-уперад па пакоі і аналізаваў услых:

— Ваш варыянт рашэння задачкі адхіляецца. Мама не зусім дакладна перадала ўмову. Значыць, у цябе, тата, ход думкі памылковы.

— А калі так паспрабаваць, сынок?.. — з надзеяй прапанаваў тата новы варыянт рашэння і выцер узмакрэлы лоб.

Сын нахмурыў бровы і зноў стаў мераць пакой крокамі зусім па-даросламу. Дайшоўшы да сцяны, ён па-вайсковаму павярнуўся на сто восемдзесят градусаў і сумна сказаў:

— Чуе маё сэрца: заўтра зноў будзе двойка...



**Першыя крокі ў спорце.**





## Курёзы

### „ПРАФЕСАРКІ"

Пару год таму назад для выпускніц і старшакласніц шатландскага горада Глазга былі арганізаваны спецыяльныя лекцыі, чытаць якія запрасілі... прастытутак. Выклікана гэта тым, што шмат дзяўчат пасля заканчэння школы папаўняюць рады служанак прадажнага „кахання".

Але ўключэнне „прафесіяналак" да выхавання школьніц зусім не азначае, як вы падумалі, што ім перадаюцца фаховыя навыкі ды сакрэты „найстарэйшай прафесіі". Справа ў тым, што, раней як папоўніць вышэйзгаданыя рады, выпускніцы мясцовых школ папаўняюць лавы беспрацоўных жанчын. І з кожным годам працэнт іх у гэтых лавах усё ўзрастае. Вось жа, зняверыўшыся ў магчымасці знайсці працу, абы зарабіць на кавалак хлеба, дзяўчаты ідуць на панель.

Бацькам горада, як пісала газета „Абсерватар" не застаецца нічога іншага рабіць, як уключыць у барацьбу з прастытуцыяй самiх прастытутак: спасылаючыся на ўласны вопыт, яны намагаюцца ў сваіх лекцыях адмовіць маладых ісці іхняй дарогай.




**Спачатку на планеце знікнуць белыя плямы, потым — зялёныя.**